наша
# свабода
№57 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

12 ВЕРАСНЯ 2000 года АЎТОРАК
Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com
КОШТ СВАБОДНЫ




# Посол не хочет возвращаться домой

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Информация о том, что Чрезвычайный и Полномочный посол Республики Беларусь в Бельгии Владимир Лабунов собирается остаться на Западе, циркулирует не один день. До сих пор он остается, пожалуй, единственным долгожителем среди белорусских послов за рубежом.**





Оставшись в Брюсселе, посол В.Лабунов может серьезно подмочить репутацию белорусского МИДа

До своего назначения 11 июля 1994 года в Брюссель Владимир Лабунов был известен как спортсмен по прыжкам с шестом и удачливый ученый-физик. На первом Съезде депутатов СССР, вместе с другими физиками Станиславом Шушкевичем и Александром Добровольским, он входил в состав белорусской делегации. Но в отличие от них, В. Лабунов не был замечен в связях с Межрегиональной депутатской группой. На многих он производил впечатление дисциплинированного карьериста. Так что его назначение в Брюссель особо никого не удивило. Кадровый дефицит на дипломатов ощущался и до прихода А.Лукашенко к власти. Кстати, назначение В.Лабунова послом за десять дней до инаугурации первого президента было последним решением такого рода уходящей власти. Среди его новых обязанностей было и представлять Беларусь при контактах с Европейским союзом, NATO. До недавнего времени по совместительству он работал также послом в Нидерландах. Как-то в частных беседах посол В.Лабунов сетовал на тяжелую работу в Брюсселе, где обстановка напоминает, по его словам, предвоенный Цюрих 30-х годов, где кишели различные спецслужбы. После таких констатаций можно предположить, что посол в своей брюссельской жизни ощущал некоторый дискомфорт, который его тяготил, и он с нетерпением ждал замены. Тем более, умудрившись «пересидеть» трех министров, которые на протяжении последних шести лет возглавляли МИД Беларуси. Представляется вероятным желание В.Лабунова, с таким солидным своим стажем работы, быть назначенным на новую, более высокую должность. Но, видимо, у нынешнего главы МИД Урала Латыпова планы кадровой ротации послов за рубежом не совпали с личными планами В.Лабунова. Участь другого физика-дипломата Игоря Малевича, который неожиданно сменил работу в посольстве в Пекине на одну из кафедр одного минского учебного заведения, естественно, В. Лабунова привлечь не могла. И он решился на заключение контракта с западными работодателями и вернуться к научной работе. Но не дома, несмотря на «цюрихские» ощущения, а на Западе.

Учитывая нервозность, которую зачастую путают с ответственностью, царящую в правящих кругах Беларуси, можно ожидать довольно нервную реакцию руководства на намерения посла В.Лабунова не возвращаться домой. Конечно, в первую очередь она коснется руководства белорусского внешнеполитического ведомства. По неофициальной информации, в Брюсселе уже ушел запрос на агреман нового белорусского посла. Препятствий для его получения не предвидится. Поэтому с уверенностью можно ожидать, что им станет нынешний первый заместитель министра иностранных дел Сергей Мартынов, имя которого фигурирует в посланном запросе. Правда, пока нет уверенности в том, кто займет его место в центральном аппарате ведомства. Фигура нового первого заместителя у министра У.Латыпова вполне, как обещают, может оказаться интересной и неожиданной. А.Лукашенко любит делать неожиданные кадровые назначения. В этом он признался, когда он назначил главного официального коммуниста руководителем государственного телевидения.

Вообще, последние назначения заместителей министра иностранных дел Владимира Герасимовича в Амстердам и Сергея Мартынова в Брюссель некоторые наблюдатели склонны воспринимать с оптимизмом. Они полагают, что вместе с нынешним белорусским послом в Париже экс-министром иностранных дел Владимиром Сенько новые послы способны продемонстрировать намерения официального Минска активизировать западный европейский вектор своей политики. При заигрывании с Европой у минских стратегов будут присутствовать такие аргументы, как разница в подходах между Европой и США по белорусскому вопросу и претензии к российскому правительству, действия которого разваливают Союз двух государств. Очевидно, что это небезобидное заигрывание рассчитано на определенный срок – до завершения президентских выборов в Беларуси, которые намечены на середину будущего года. Если ничего до этого не произойдет. ■

# «Тройка» замест назіральнікаў

Міхась КАРПОВІЧ

**Аб'яднаная Еўропа не збіраецца прысылаць сваіх назіральнікаў на выбары ў Палату прадстаўнікоў 15 кастрычніка. Заходнія дэмакраты лічаць, што гэтыя выбары не будуць дэмакратычнымі, свабоднымі і справядлівымі. Чатыры ўмовы, пастаўленыя перад беларускімі ўладамі – спыніць рэпрэсіі па палітычных матывах, дэмакратызаваць Выбарчы кодэкс, прадаставіць апазіцыі магчымасць выступаць у электронных СМІ і пашырыць паўнамоцтвы парламента – не выкананыя. Тым не менш, на час выбараў у Мінск прыедзе чарговая «тройка» прадстаўнікоў еўрапейскіх структураў.**

Учацвер у Парыжы прайшло паседжанне Бюро Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, прысвечанае восеньскім выбарам у Беларусі. На ёй былі ўхваленыя рэкамэндацыі, прынятыя 31 жніўня ў Вене на Трэцяй тэхнічнай канферэнцыі АБСЕ па пытанні правядзення дэмакратычных выбараў у Беларусі.

Вольфганг Берэндт, адмысловы дакладчык па Беларусі ў ПАСЕ, паведаміў радыё «Свабода», што ў час выбараў 15 кастрычніка ён будзе прысутнічаць у Мінску ў якасці прадстаўніка ад Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. Разам з ім на выбары прыедуць па адным чалавеку ад Еўрапейскага парламента і Парламенцкай асамблеі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. На думку В.Берэндта, хутчэй за ўсё гэта будуць адпаведна Ян Марыус Віерсма і Адрыян Севярын.

Нягледзячы на прысутнасць гэтых трох асобаў у Беларусі падчас выбараў, гэта не будзе лічыцца назіраннем, заявіў Вольфганг Берэндт. І, такім чынам, адсутнасць міжнародных назіральнікаў на выбарах не дазволіць Еўропе прызнаць новы «парламент», абраны па лукашэнкаўскім Выбарчым кодэксе, дэмакратычным органам улады.

Прадстаўнік ПАСЕ таксама назваў «праўдападобнай» магчымасць, што беларускія выбары пры фактычнай адсутнасці назіральнікаў не будуць прызнаныя міжнароднай супольнасцю: «Паколькі высунутыя міжнароднай супольнасцю ўмовы не былі дастаткова выкананыя, гэтыя выбары нельга трактаваць як свабодныя і справядлівыя».

Па словах Вольфганга Берэндта, прыезд «тройкі» еўрапейскіх структураў у Беларусь мае больш сімвалічнае значэнне для ўладаў: маўляў, вы крыху пайшлі нам насустрач, і мы таксама зробім маленькі крок. Але не болей за тое.

У той жа дзень у Страсбургу Еўрапейскі парламент таксама праводзіў сваё паседжанне, прысвечанае Беларусі. Было вырашана накіраваць кіраўніка дэлегацыі Еўрапейскага парламента па справах Беларусі, Малдовы і Украіны Яна Марыуса Віерсму ў склад «тройкі» для візіту ў Беларусь. ■



Фота IREX/ProMedia

Вольфганг Берэндт

## НАВІНЫ

■ **Учора ў Францыі распачалася кампанія перад агульнанацыянальным рэферэндумам, які адбудзецца 24 верасня.** На ім французы павінны выказацца наконт ініцыятывы скарачэння тэрміну прэзідэнцкага мандата з 7 да 5 гадоў. Але пакуль гэтая праблема ў французаў асаблівай цікавасці не выклікае: 60% электарату на галасаванне ісці не збіраюцца. А вось большасць – 77% – тых, хто вырашыў узяць удзел у рэферэндуме, падтрымаюць ідэю скарачэння тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў.

■ **Кандыдат на пасаду прэзідэнта ЗША ад рэспубліканскай партыі Джордж Буш-малодшы пакуль саступае суперніку ад дэмакратаў Альберту Гору.** Паводле апошніх сацыялагічных даследаванняў, па папулярнасці сярод насельніцтва апошні з невялікім адрывам лідзіруе: 47% выбаршчыкаў супраць 44%. Дарэчы, гэта пры тым, што яшчэ месяц таму рэспубліканец меў перавагу на 17%. Дж.Бушу пакуль не ўдаецца звязаць імя свайго канкурэнта са скандаламі падчас прэзідэнта Біла Клінтана, ды і амерыканская эканоміка за дэмакратамі зазнала значнага ўздыму.

■ **Больш як 50 службоўцам японскай пошты спатрэбілася ўчора дапамога медыкаў у выніку дзіўнага атручэння.** Яны разбіралі лісты і бандэролі з Кітая, калі з аднаго пакета выцякла вадкасць, якая ператварылася ў белы дым з рэзкім пахам. Бандэроль, дзе знаходзіліся ўзоры рэчываў для вытворчасці новых лекаў, адрасавалася японскай хімічнай кампаніі. Гэты выпадак нагадаў японцам тэрарыстычную акцыю, праведзеную сектай «Аум сенрыкё» 5 гадоў назад у такійскім метро.

■ **Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан сцвярджае, што рукапні паміж ім і Фідэлем Кастра адбыліся для яго нечакана, і што менавіта кубінскі лідэр шукаў з ім сустрэчы.** Раней амерыканскі бок наогул адмаўляў такі факт. Клінтан кажа, што «ўсё адбылося вельмі проста. Было шмат народу, я з кімсьці гаварыў, паглядзеў назад і ўбачыў Кастра». Дзяржсакратар ЗША Мадлен Албрайт заявіла, што «абодва прэзідэнты пагутарылі дзве хвіліны ні аб чым, гэта была сардэчная размова». Пры гэтым кажацца, што палітыка ЗША ў дачыненні да Кубы не зменіцца.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1040**



## What is your name? Belarus!

**Аляксандар ДУБРАВІН**

Як называецца наша краіна? Беларусь. Ад двух слоў: Белая Русь. Што, здаецца, незразумелага? Як напісана, так і гавары. Але вось расейцам вельмі хочацца называць нашу сіняокую Белоруссіяй. (Такая дыскусія распачалася ў некаторых нашых газетах). Гэтак, маўляў, у іх прынята. Яны, нібыта, гэтак гістарычна называлі нас і гэтак называць будуць, бо слова «Беларусь» імі дрэнна вымаўляецца, артыкуляцыя замінае, язык не паварочваецца, маскоўскія папы не дазваляюць. Не адпавядае, каб вы ведалі, іхнім правілам граматыкі...

Дык у мяне адразу пытанне: што гэта за славяне, якія пасля гэтага называюць сябе рускімі? Уявіце сабе: рускім людзям цяжка вымаўляць слова «Русь»! Абсурд, як той казаў. Мабыць, яны сябе з некім блытаюць. Мусіць, з мангола-татарамі, у каторых артыкуляцыя іншая. Або з яшчэ якім дзікім азіяцкім народам, які саромеецца называцца сваім сапраўдным прозвішчам, бо яно кампраметуе тысячагадовую Імперыю.

Ну й добра! Хай яны сабе ў сваёй Маскoвіі называюць нас Белоруссіяй, абы не звягалі і сядзелі ціхенька. Так яно, сапраўды, болей падобна на слова «Россія». (Дарэчы, чыё гэта слова? Хіба яно рускае?) Яно іх цешыць і грэе: ёсць вялікая, «ісцінная» Россія, а ёсць маленькая і несамастойная БелоРоссія. Ну, хай сабе цешацца. Бо ім жа вельмі нялёгка пазбавіцца свайго імперскага комплексу, трэба ж і гэта разумець. Мы павінны быць далікатнымі. І паспачуваць ім трэба, і дапамагчы як псіхіятры. Гэта пройдзе з цягам часу.

Але вось жа дзіва: яны ўжо нахабна так патрабуюць, каб мы самі сябе называлі Белоруссіяй. Насмеліліся, наступаюць і голас падаюць. Называй сябе, маўляў, не беларусам, а белорусцам! Дык можа вам, «ребята», і палы памыць у вашай бруднай хаце, а? Вы зусім ужо згубілі пачуццё рэальнасці. Мусіць думаеце, што тут усе спрэс адны лукашэнкі? А калі мы пачнем вас гістарычна называць? У нас што ні казка пра вайскоўцаў, дык у ёй – маскаль. А што, калі мы ўсю гісторыю ўспомнім?

Беларусы мы. А краіна наша – БЕ-ЛА-РУСЬ. BE-LA-RUS! Сябе вы можаце не паважаць і называць, як вам заўгодна. А нас называйце так, як мы вас просім. Інакш «ісціннай» дружбы ў нас не атрымаецца. Do you understand? ■

## Беларускі кіраўнік – дасведчаны электронны гандляр

кажа ягоны памочнік

**Ян ДЗЯМІДАЎ**
**агенцтва «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

Памочнік Аляксандра Лукашэнкі Сяргей Посахаў ускладае вялікія надзеі на міжнародную канферэнцыю «Электронны гандаль у СНД і ўсходнееўрапейскіх краінах: разам у XXI стагоддзе», што адбудзецца ў Мінску 18—20 кастрычніка. На прэс-канферэнцыі з гэтай нагоды ён дзяліўся сваімі меркаваннямі пра развіццё новых формаў куплі-продажу, у тым ліку ў інфармацыйнай галіне.

Карэспандэнт латвійскай газеты *Diena* спытаў яго, чаму ледзь не адзіны канкурэнтаздольны тавар Беларусі ў сферы электроннага гандлю, што карыстаецца попытам на знешніх рынках — а менавіта аператыўная інфармацыя пра Аляксандра Лукашэнку, — знаходзіцца ў фактычнай манаполіі замежнага прадпрыемства «Интерфакс-Запад». Сяргей Посахаў адказаў, што А.Лукашэнка не толькі інфармацыйны тавар, але яшчэ і прадавец гэтага тавару: «Відавочна, прадавец сам усталёўвае правілы свайго гандлю. Але я асабіста дачынення да гэтага не маю».

С.Посахаў выклаў і свой асабісты пункт погляду: такія правілы маюць быць усталяваныя, бо, паводле ягоных словаў, чалавек не можа быць увесь час пад прыцэлам «пішучай брацііі», таму ёсць над чым працаваць.

Дарэчы, агенцтва «Ю.С.Ньюс» ужо зарэгістравала інтэрнэтаўскі дамен *lukashenka.com* і гатовае бясплатна аддаць яго Аляксандру Лукашэнку, калі ён вырашыць гандляваць інфармацыяй пра сябе ва ўмовах сумленнай канкурэнцыі ды адмовіцца ад манапалізму агенцтва «Интерфакс-Запад». ■

## Забойцу з «Алмаза» будуць судзіць

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

У Мінскі гарадскі суд перададзеная крымінальная справа па абвінавачанні афіцэра падраздзялення спецыяльнага прызначэння Фёдара Ліфанава, які застрэліў сёлета ў сакавіку супрацоўніка АМАП, ва ўчыненні шэрагу злачынстваў.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе пракуратуры горада Мінска, Ліфанаў абвінавачаны па артыкулах 201, частка 3 (злоснае хуліганства), 15, які прадугледжвае адказнасць за падрыхтоўку да злачынства і за замах на злачынства, а таксама некалькіх пунктах артыкула 100 (наўмыснае забойства, учыненае пры ўскладняючых абставінах). Апошні артыкул прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ад 15 да 25 гадоў, пажыццёвае зняволенне, смяротную кару.

Паводле інфармацыі, атрыманай з пракуратуры, 26-гадовы старшы лейтэнант міліцыі, камандзір звяна баявой групы спецпадраздзялення па барацьбе з тэрарызмам Фёдар Ліфанаў 4 сакавіка 2000 года каля 1 гадзіны 30 хвілінаў у памяшканні фае канцэртнай залы «Мінск» на дыскатэцы, арганізаванай у гонар Дня беларускай міліцыі (пасля ўрачыстага паседжання з удзелам кіраўнікоў некаторых сілавых міністэрстваў), знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, зрабіў 8 стрэлаў з табельнай зброі — пісталета Макарава. Быў смяротна паранены супрацоўнік АМАП ГУУС Мінгарвыканкама М.Гляд, чатыром АМАПаўцам, а таксама наведвальніцы дыскатэкі нанесеныя цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці.

Як паведамілі ў пракуратуры, Ліфанаву прад'яўленыя таксама іскі ў інтарэсах НДІ медкрыміналогіі, Рэспубліканскага шпіталю МУС і ГУУС Мінгарвыканкама на суму 622.024 рублі. ■

**БелаПАН**

## Беларускіх геяў пазбавілі гонару



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Ускладанне кветак да помніка Перамогі

**Сяргей ВОЖЫН,**
**спецыяльна для НАШАЙ СВАБОДЫ**

Беларуская дзяржава чарговы раз прадэманстравала, што ёй ёсць справа да таго, хто з яе грамадзянаў з кім спіць. Вялізарны фестываль «Гей-прайд-2000» («Гонар геяў-2000»), які планавала правесці рэдакцыя часопіса «Форум-Лямбда» (часопіс беларускіх геяў і лесбіянак, наклад 299 экз.), быў сарваны менавіта па загадзе «зверху». Такі фестываль, дарэчы, мусіў стаць першым не толькі для Беларусі, але і для ўсіх краінаў былога СССР.

А пачыналася ўсе прыгожа. Планаваліся нестандартныя паказы модаў, выступленні тэатраў з Польшчы і расійскіх выканаўцаў, і нават такая экзатычная рэч, як мужчынскі стрыптыз. Усе мерапрыемствы меркавалася праводзіць у мінскіх начных клубах — каб не пакрыўдзіць «грамадскую мараль» і каб на гэтыя відовішчы трапілі толькі тыя, каму гэта цікава. За арэнду клубаў было заплачана.

У першы ж дзень фестывалю адміністрацыя мінскага клуба «Акварыум» па загадзе гарадскіх уладаў на 15-ай хвіліне пасля пачатку «Гей-прайду» вырубіла святло. На выхадзе з памяшкання людзей з нетрадыцыйнай секс-арыентацыяй чакалі ўзмоцненыя групы міліцыі. Для арганізатараў усе стала зразумела.

Але таго, што адбылося потым, не чакаў ніхто. Аргкамітэт «Гей-прайду» месціўся ў памяшканні рэсурснага цэнтра падтрымкі недзяржаўных арганізацыяў «Аб'яднаны шлях». І на наступны дзень у «Аб'яднаны шлях» завіталі міліцыянты. З памяшкання выкінулі ўсіх – і беларускіх геяў, і супрацоўнікаў рэсурснага цэнтра. Казалі яшчэ па-добраму: «Выходзьце самі, а інакш тут праз 10 хвілінаў будзе група захопу». Супрацоўнікі цэнтра не пажадалі быць захопленымі і шырокімі крокамі пашпацыравалі ў АБСЕ скардзіцца на беззаконне, роўна як і Эдвард Тарлецкі, адзін з арганізатараў «Гей-прайду».

У выніку шэраг семінараў, запланаваных у «Аб'яднаным шляху», не адбыўся. Таксама не адбылася канцэртная праграма. Адміністрацыі клуба «Рэактар» патэлефанавалі і ненавязліва паведамілі, што ніякіх мерапрыемстваў з нетрадыцыйнай арыентацыяй гораду не трэба, а калі яны ўсе ж будуць – з клубам можна развітацца. Зразумела ж, адміністрацыя клуба не пажадала зачыняць сваю кантору дзеля фестывалю геяў. Такі ж званок быў у «Акварыум».

Расійскія, украінскія, шведскія і нават казахстанскія гей-спецыялісты чыталі лекцыі на адкрытым паветры, у скверы ля кінатэатра «Змена». А 9 верасня, у сусветны дзень памяці ахвяраў Другой сусветнай вайны, дэлегацыя секс-меншасцяў, уклініўшыся паміж шматлікімі вяселлямі, усклала кветкі да помніка Перамогі. Там можна было паразмаўляць з любым прадстаўніком секс-меншасцяў любой краіны-ўдзельніцы «Гей-прайду». НАШАЙ СВАБОДЗЕ сітуацыю адкаментаваў **Біл Шылер**, шведскі радыёжурналіст, удзельнік арганізацыі *Amnesty International* («Міжнародная амністыя») у Швецыі.

— Мы абураныя забаронай гей-прайду. Беларускія ўлады трымаюць нас за людзей другога гатунку, і гэта абумоўлена тым, што ў краіне няма дэмакратыі. Швецыя, Данія, Фінляндыя паважаюць правы гомасексуалаў і ведаюць, наколькі важная гэтая павага. Мы стаім тут у памяць усіх, хто загінуў у Другой сусветнай вайне незалежна ад сексуальнай арыентацыі. Калі беларускія палітыкі жадаюць, каб іх прымалі, як братоў і сясцёр, то яны павінны паважаць правы ўсіх людзей. Мы прыедзем у Швецыю і будзем пратэставаць у сувязі з жорсткімі адносінамі, якія мы тут на сабе адчулі.

Дарэчы, дагэтуль на Беларусі не зарэгістраваная арганізацыя геяў і лесбіянак, якая ўжо больш за два гады займаецца дзейнасцю па абароне секс-меншасцяў. Таксама незарэгістраваны часопіс «Форум-Лямбда», якому сёлета споўніўся год. Яны не займаюцца прапагандай свайго ладу жыцця, а больш нагадваюць клубы па інтарэсах, якія абмяркоўваюць свае, вузкія праблемы. Калі б улады не надавалі такой увагі забароне «Гей-прайду-2000», пра іх бы ніхто і не ведаў. Цяпер жа ўсяму свету вядома, што ў Беларусі не любяць людзей з нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй. А гэта, як ні дзіўна будзе даведацца некаторым чыноўнікам, таксама парушэнне правоў чалавека. ■

## Беларускія татары ўтвараюць федэрацыю

Нядаўна ў Польшчы скончыла сваю працу чарговая летняя Міжнародная акадэмія ведаў пра польскіх татараў. Вынікам працы акадэміі стала рашэнне пра стварэнне міжнароднай федэрацыі татараў Беларусі, Літвы, Польшчы ды Украіны. Адным з ініцыятараў стварэння федэрацыі стаў кіраўнік беларускае дэлегацыі Ібрагім Канапацкі. Асноўныя мэты, якія ставіць перад сабой будучая федэрацыя *«Millet»* (народ) — захаванне культурнай адметнасці нашчадкаў татараў ВКЛ, развіццё культурнай спадчыны народа і ягонай традыцыйнай рэлігіі. ■

## Што не па гусце чыноўніку – падабаецца людзям

Улады горада Горкі робяць дарам выдатную рэкламу недзяржаўным арганізацыям. Загадчык аддзела культуры Кузняцоў адмовіў у правядзенні канцэрта студыі «Жывы гук» толькі на той падставе, што афішы былі надрукаваныя на беларускай мове. Частка ненавісных чыноўніку беларускамоўных афішаў была знятая, і тады па горадзе папаўзлі самыя неверагодныя чуткі. Калі нарэшце дазвол быў дадзены, на забаронены і так добра разрэкламаваны канцэрт сабраліся не толькі маладыя гараджане, але і сталыя людзі. ■

**BARC_List NEWS**

**Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі высілкамі арганізацыяў г. Мінска 15 верасня ладзіць мітынг, прысвечаны тэме дэмакратычных выбараў і парушэння ўладамі правоў грамадскіх арганізацыяў. Удзельнікаў чакае цікавы перформанс! Прыходзьце самі і прыводзьце сваіх сабачак!**




## Трагедыя ў Брэсце

**«Брэст Online»**

У Брэсце адбылася трагедыя. З-за непаладак ліфта загінула дзіця, а эксперты працягваюць сцвярджаць, быццам ліфт быў спраўны.

Калі маладая жанчына выйшла з ліфта і вывозіла калыску з пляменніцай, раптам пры адчыненых дзвярах кабіна ліфта пачала рухацца. Калыска з дзіцем упала ў ліфтавую шахту, і дзяўчынка загінула. Камісія разглядае некалькі версіяў здарэння, сярод якіх і шкодніцтва. Эксперты кажуць, што адбылося парушэнне тэхнікі бяспекі маладой жанчынай, таму што, выходзячы з ліфта, неабходна браць дзіця на рукі. Па неафіцыйных дадзеных, прычынай трагедыі магла быць некім незаконна ўсталяваная перамычка ў сістэме кантролю блакіроўкі аўтаматыкі ліфта. Пасля пагібелі дзіцяці перамычка знікла, аднак сляды яе ўсталявання засталіся. Гэта тлумачыць, чаму ліфт пачаў рухацца з адкрытымі дзвярыма. Вядома, што незадоўга да трагедыі рабочыя бетанавалі ніжнюю пляцоўку ліфтавай шахты, таму не выключана, што гэта яны ўсталявалі перамычку, каб аблегчыць сабе працу... ■

# Блеф и тщета куртизанок

Александр ДУБРАВИН

*(Продолжение. Начало в №56)*

**Паразит – имя существительное.**

Я не думаю, что двусмысленное решение Венской конференции послать европейских технических представителей на выборы 15 октября было обусловлено именно письмом «могучей кучки». Незначителен вес этих людей в белорусской и международной политике, наивным выглядит и само письмо, с головой выдающее личную заинтересованность авторов. Думаю, вряд ли кто-то в Вене его внимательно читал. Оно выполнило свою функцию уже тем, что было написано, направлено и пополнило тощий портфель аргументов противной стороны, выступающей за легитимизацию режима Лукашенко. Известно, что на этой стороне активно сыграли российские дипломаты, разведчики, гэбисты, некоторые ангажированные европейские политики. Здесь кстати будет вспомнить, что г-жу Абрамову (белорусское Яблоко) и г-на Гайдукевича (ЛДПБ) в демократический лагерь фактически встроил сам г-н Вик. И сделал он это, напомню, накануне предполагаемых, но так и не состоявшихся переговоров оппозиции с Лукашенко. «Заигранные» за оппозицию, эти люди стали негласно считаться противниками режима, хотя мне, например, всегда казалось, что это борцы из числа тех, которые выбирают в политике самый безопасный для личного благополучия путь.

Согласитесь, серьезная борьба с диктаторским и узурпаторским режимом предполагает тяготы и лишения. Мужество в отстаивании неких незыблемых принципов. А имитация борьбы и своевременная сдача позиций под предлогом борьбы за более полную демократию, дает уникальные на общем фоне шансы на торг с режимом и на получение неких эксклюзивных радостей. Ведь что значат, на самом деле, нынешние жалобы полковника Гайдукевича на ущемление сотни его кандидатов проклятым режимом и угроза сообщить об этом «куда следует»? Предложение компромисса. Вы меня пропускаете в «палатку», а я подтверждаю, что все было очень честно и демократично.

По мере продвижения к финалу запросы полковника будут неуклонно снижаться в сторону реализма. Но до определенного порога, обусловленного его личными обязательствами, переступить который он не сможет и тогда снова вернется в ряды сторонников выполнения четырех условий ОБСЕ и оппозиции, за безусловное соблюдение которых он совсем недавно с таким пылом и жаром боролся во всех своих интервью. Таким образом, режиму нужно точно угадать его реальные запросы. Мне кажется, что Лукашенко уже сегодня сожалеет о том, что в его «палате» маловато мест. Слишком много вокруг своих и чужих паразитов, желающих поменять годы непосильной «борьбы» с режимом на пенсион заседателя. Но ты, читатель, только на секунду представь себе, какое же презрение к этим «борцам» (абсолютно естественное) должен испытывать сам Лукашенко!




Да, я совершенно забыл сообщить, что г-н Гайдукевич тоже метнул просительное письмо в Вену. В нем он по привычке возвышает свою партию (сам не похвалишь, кто бесплатно сделает?), крупными мазками лепит эпическую картину наступления либерал-демократов на избирательные участки по всей Беларуси, призывает европейцев помочь в *«осуществлении международного контроля за законностью действий избирательных комиссий всех уровней»*. Есть в послании и уникальные по кривизне строки: *«К сожалению, ряд представителей* ***ортодоксальной*** *оппозиции стали на путь тактики бойкота, а фактически выхода из фронта противостояния режиму. На плечи ЛДПБ переложен весь груз борьбы за демократию и прогресс»*. Это, заметьте, пишет лидер партии, которая до недавнего времени горячо поддерживала политику Лукашенко и уже тем самым несет ответственность за нынешнее положение в стране! Партии, которая постыдно отсиживалась в кустах во время всех массовых акций протеста демократической оппозиции! Партии, создание которой «было во многом обусловлено успехами партии с аналогичным названием в России» (справочник «Политические партии Беларуси»). Как говорится, чья бы мычала, а чья бы и помолчала.

Называя в своем письме настоящую, реальную оппозицию «ортодоксальной», полковник делает абсолютно правильный, грамотный ход с точки зрения рыночного предложения своего товара. Такой приём называется «отстройкой от конкурента». Дескать, вот они - черненькие, а это вот я – беленький! Не путайте нас. Они плохие, я – хороший. Но как было бы хорошо с точки зрения порядочности, если бы полковник Гайдукевич делал такую же принципиальную отстройку и в других случаях. Например, когда его, как оппозиционера, звали участвовать в переговорах с режимом, завоеванных этими «черненькими» в многолетней и упорной борьбе. Пускай бы он ответил гордо: я не такой, вы меня с ними не путайте. Они добились этих переговоров ортодоксальными способами, а я либерал.

Примерно такую же, но более решительную отстройку от порядочных людей сделали в своем письме и господа из «могучей кучки». Например, г-жа Абрамова пишет о себе, как о деятеле оппозиционного Парламента, который инициировал (!) импичмент президента. Впечатляет! Но тут же и г-н Новосяд, третий подписант, выступает деятелем непокоренного Парламента и инициатором импичмента (?). Приятно, видимо, людям вспомнить не бессмысленную и соглашательскую, а радикальную деятельность. Пусть и не свою. Хорошее помнится, плохое забывается. Забывается, что г-жа Абрамова ставила палки в колеса почти всем решениям того Парламента, работой которого она сегодня гордится. Забывается и то, что г-н Новосяд отозвал свою подпись под импичментом президента, испугавшись давления. Он почему-то не пишет об этом в Вену. Не пишет и о печальном опыте своего участия в местных лукашенковских выборах.

Но это простительно. Люди должны снисходительно относиться к ошибкам друг друга. Непростительно, например, то, что г-жа (едва не написал «полковник») Абрамова делает свою отстройку от демократической оппозиции приемом, похожим на донос. Судите сами: *«В марте 1997 года, как член оппозиционного Верховного Совета 13 созыва, критиковала авантюристическое предложение Гончара и Лебедько штурмовать(!) здание Парламента»*. Ничего себе страсти среди рафинированных законников вроде Гончара и Лебедько!

Г-н Новосяд, называя себя членом политсовета Объединенной гражданской партии, отмечает, что он выступил на заседании политсовета против *«рискованной линии нового партийного лидера А.Лебедько»*, направленной на бойкот выборов, *«превращающей партию в секту»*. Какое, казалось бы, дело европейцам до партийных споров? Тем более, что, вступив на избирательную тропу, г-н Новосяд автоматически вышел из партии в соответствии с общим ее решением? Каждое лыко в строку. Здесь очень кстати будет вспомнить и некоторые сочинения *«выдающегося журналиста, хорошо известного своей критикой существующего политического режима в Беларуси»* г-на Федуты, направленные против демократической оппозиции.

Господа утверждают: реальная демократическая оппозиция – это радикальные авантюристы. Почему? Потому что не хотят идти на фальшивые выборы? Потому что не сдаются на милость антидемократическому режиму? Потому что отстаивают заявленные принципы? Потому что придерживаются предварительных договоренностей со своими партнерами? Потому что объединяют вокруг себя людей? Потому что отстаивают независимость своей страны? Потому что не сидят, сложа руки, в то время как остальные политики болтают языком?

Если они авантюристы, то кто же тогда вы, господа? ■

*Продолжение следует*

# Адсвяткавалі Дзень вайсковай славы

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Надта, відаць, напужаліся сталічныя ўлады планамі дэмакратаў з БНФ адзначыць 8 верасня чарговыя ўгодкі гістарычнай перамогі пад Оршай над маскоўскім войскам ускладаннем кветак да помніка Перамогі на аднайменнай сталічнай плошчы. Інакш чым можна патлумачыць тое, што колькасць міліцыянтаў і супрацоўнікаў спецслужбаў, якія сабраліся ў раёне гэтай плошчы, была амаль роўная колькасці актывістаў, што сабраліся на святочны чын. Аўтобусы з міліцыянтамі ў дварах пужалі мінакоў і стваралі ўражанне, быццам зараз пачнецца буйная акцыя кшталту «Маршу Свабоды». Дайшло да таго, што паставілі міліцэйскі кардон... проста ў падземным пераходзе плошчы Перамогі, прапускаючы наверх, да помніка, адно толькі вяселлі, якіх у пятніцу ўвечары, вядома ж, шмат. Пры гэтым падазрона дапытваліся ў жаніха ды нявесты, ці ўсе з тых, хто ідзе на плошчу, іхныя сваты ды запрошаныя.

А шостай гадзіне ад штабкватэры БНФ паказалася працэсія колькасцю 300-500 чалавек на чале з Юрыем Хадыкам і Вінцуком Вячоркам. Калі яны спусціліся ў пераход і паспрабавалі прайсці да плошчы, ледзь не адбыліся сутыкненні, якія ў такіх абставінах маглі б мець досыць трагічныя наступствы. На шчасце, Ю.Хадыку ўдалося пераканаць камандаванне «кардонных» міліцыянтаў, і тыя расступіліся, прапусціўшы людзей.

Далей усё было спакойна і дастойна. Пад гукі дуды прыгожыя дзяўчаты ў нацыянальных строях усклалі вянкі ў памяць змагароў за Бацькаўшчыну, а затым калона складам прыкладна ў тысячу чалавек рушыла ў накірунку сквера Янкі Купалы да помніка народнаму песняру. Там прайшлі народныя гулянні, з паказальнымі выступленнямі сябраў рыцарскіх клубаў, спяваннем народных песень. Пачатак восеньскім палітычным акцыям пакладзены. ■



# Жанчыну-следчага затрымалі за хабар

Ірына ШАНЦАВА

**Крымінальная справа па факце атрымання хабару следчым аддзела ўнутраных справаў Савецкага раёна Гомеля ўзбуджаная Гомельскай абласной пракуратурай.**

Следчы была затрыманая аператыўнымі супрацоўнікамі абласнога Камітэта дзяржбяспекі Беларусі 7 жніўня падчас атрымання хабару. За 200 долараў ЗША яна мела намер утаіць асобныя эпізоды следства на карысць абвінавачваемых па крымінальнай справе, якую яна вяла.

Расследаванне праводзіць аддзел па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй пракуратуры вобласці. ■

БелаПАН

# Гісторыя цацак

«Прыгоды Віні Пуха», «Жыццё жукоў», «Меч у камені», «Балто», «Аліса ў краіне цудаў», «Прыгажуня ў сонным лесе» – мультыплікацыйныя фільмы, дубляваныя па-беларуску акторамі вядучых менскіх тэатраў.

«Казкі па тэлефоне», «Дзед і жораў», «Азбука для маленькіх», «Ехаў казачнік Бай», «Цік-так ходзікі», «Беларускія народныя казкі», «Стойкі алавяны салдацік + Каліф-бусел» – аўдыёкасэты з запісамі казак, калыханак, песьняў для маленькіх беларусаў.

Цяпер і ў Віцебску: вул. Гогаля, 14, крама «Сучасьнік».

Кошт відэакасэты – 2.000 руб.

Кошт аўдыёкасэты – 600 руб.

Зьвяртайцеся на тэл.: 8 (017) 228-45-88.

Касэты можна замовіць, пералічыўшы грошы звычайным паштовым перакасам на рахунак ЗАТ «Сотвар» р/р 3012000000195 ф-л № 506 ААТ СБ «Беларусбанк», г.Мінск, код 809. У графе «Для пісьмовага паведамленьня» напішыце, якую касэту вы замаўляеце.











# Знайдзі розніцу паміж здымкамі

Косця ПЕРНІК

Амаль палову першай старонкі нумара за 8 верасня газета «Советская Белоруссия» адвяла фота ўсіх кіраўнікоў дэлегацыяў на ААНаўскім «Саміце Тысячагоддзя», дзе Аляксандр Лукашэнка апынуўся першым злева ў першым шэрагу. Але ў той жа дзень і Наша СВАБОДА, і «Белорусская деловая газета» апублікавалі тое самае афіцыйнае фота, ды там быў яшчэ адзін чалавек. У светлым нацыянальным строі злева ад Лукашэнкі стаіць нейкі чарнаскуры лідэр. З нейкіх расісцкіх меркаванняў газета «СБ» не толькі адрэзала ўсе левыя плечы людзей з вышэйшых шэрагаў на фота, але і замалявала чорным той фрагмент светлага адзення, што меў застацца каля А.Лукашэнкі. Падобным чынам фотаздымкі на Беларусі не рэтушавалі са сталінскіх часоў. ■

## Эквадор застаўся без сукра

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

З 10 верасня амерыканскі долар стаў нацыянальнай валютай Эквадора. Хаджэнне нацыянальнай валюты сукра, якая праіснавала 116 гадоў, было спыненае.

Яшчэ ў студзені 2000 года Джаміль Мауад, які ў той час займаў пасаду кіраўніка дзяржавы, падпісаў указ аб увядзенні долара. Абменны курс быў устаноўлены ў памеры 25 тысяч сукра за 1 долар ЗША.

Рашэнне аб увядзенні долара было прынятае ў сувязі з працяглым эканамічным крызісам, які пацягнуў падзенне нацыянальнай валюты.

Цяпер перад Эквадорам паўстала новая праблема – недахоп разменнай манеты. Аднак Цэнтральны банк краіны запэўніў, што гэтая праблема хутка будзе вырашаная: ужо ладзіцца выпуск новых эквадорскіх манетаў, якія будуць адпавядаць амерыканскім і якія будуць хадзіць паралельна з імі. ■

## Прэм'ера збіраліся падарваць?

Міхась КАРПОВІЧ

У ноч з суботы на нядзелю ў Мальмё, трэцім па велічыні горадзе Швецыі, прагрымеў моцны выбух. Паводле папярэдніх дадзеных, ён адбыўся ў выніку непаладак у электраразмеркавальным агрэгаце.

Выбух быў такі моцны, што ўшчэнт разбурыў вулічны шапік-кафэ, што знаходзіўся непадалёк. Інцыдэнт адбыўся ўсяго ў 30 метрах ад рэзідэнцыі прэм'ер-міністра Швецыі Ёрана Персана, які ў гэты момант знаходзіўся дома і спаў. Прэм'ер не толькі не пацярпеў, але нават нічога не чуў. Аднак паліцыя не выключае, што гэта быў тэрарыстычны акт, скіраваны супраць кіраўніка шведскага ўрада. Распачалося расследаванне. ■

## Прынц Люксембурга ў коме

Ірына СТАРЦАВА

У нядзелю прынц Люксембурга Гіём быў цяжка паранены ў аўтамабільнай катастрофе непадалёк ад Парыжа. 37-гадовы малодшы сын Вялікага герцага Люксембургскага быў шпіталізаваны ў паўднёвым прыгарадзе Парыжа – Крэтэйлі. Невялікі аўтамабіль прынца Гіёма, узяты напракат, урэзаўся ў грузавік, некалькі разоў перакуліўся і вылецеў на сустрэчную паласу, дзе ў яго ўрэзаўся яшчэ адзін аўтамабіль. Гіём атрымаў цяжкую чэрапна-мазгавую траўму і ўпаў у кому. 32-гадовая жонка прынца Гіёма Сібіл, якая знаходзілася ў аўтамашыне разам з мужам, атрымала неістотныя пашкоджанні. Яшчэ пяць чалавек былі лёгка параненыя. Прэзідэнт Францыі Жак Шырак, калі даведаўся пра катастрофу, звярнуўся да манаршай сям'і са словамі падтрымкі. ■

## Кіроўцы легкавікоў патрабуюць ільготаў

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У Францыі кіроўцы легкавікоў патрабуюць сабе такіх жа падатковых ільготаў, якія ўжо маюць кіроўцы грузавікоў, фермеры і таксісты ў сувязі з рэзкім падаражэннем коштаў на паліва.

Маніфестацыі аўтамабілістаў прайшлі ў Страсбургу, Бельфоры, Нансі і іншых гарадах. Характэрна, што ў цалкам капіталістычнай Францыі яе грамадзяне абвінавачваюць у росце цэнаў цэнтральныя ўлады, а не нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы краіны.

Тым часам, пратэсты французскіх транспартнікаў перакінуліся на іншыя краіны. 10 верасня ў Брусэлі таксама адбылася масавая дэманстрацыя грузаперавозчыкаў. Каля дзвюх тысяч грузавікоў перакрылі праезд у цэнтры горада. Іх кіроўцы патрабавалі ад уладаў прыняць неадкладныя захады па зніжэнні коштаў на паліва, як гэта было зроблена ў Францыі.

Нагадаем, што ў знак пратэсту супраць істотнага павышэння коштаў на паліва ўвесь мінулы тыдзень французскія фермеры і грузаперавозчыкі праводзілі страйк і блакіравалі шляхі да нафтаперапрацоўчых заводаў і сховішчаў нафты. У выніку яны дамагліся 15%-й зніжкі падатку на паліва. ■

## Смяротны марафон



Міхась КАРПОВІЧ

У Берліне падчас правядзення традыцыйнага марафону 10 верасня загінулі два яго ўдзельнікі. Гэта першыя смяротныя выпадкі падчас берлінскага марафону за апошнія дзесяць гадоў.

58-гадовы датчанін упаў падчас забегу і памёр на шляху да шпіталю. 38-гадовы жыхар Панамы памёр ужо за фінішнай рысай. На думку медыкаў, прычынай смерці абодвух бегуноў сталі праблемы з сэрцам. Усяго па медыцынскую дапамогу звярнуліся 1.200 удзельнікаў забегу, 45 былі дастаўленыя ў шпіталі Берліна. Усяго па вуліцах германскай сталіцы бегла да 40.000 чалавек з 80 краінаў свету. Сярод удзельнікаў марафону быў і міністр замежных справаў ФРГ Йошка Фішэр. ■

# Папа Римский встретился с дьяволом

Василий СЕРГЕЕВ

**Инцидент с изгнанием нечистой силы произошел в Ватикане еще в прошлую среду, во время еженедельной службы папы на площади Святого Петра. Ватикан предпринял ряд мер, чтобы не придавать случившееся огласке, однако уже в эти выходные информация просочилась в прессу — сначала итальянскую, потом британскую.**



Одной из первых о факте изгнания дьявола написала римская *Il Messaggero*. В статье «Ватикан посетил дьявол» сообщается о том, что в тот момент, когда Папа вплотную приблизился к 19-летней прихожанке, чтобы благословить ее, с девушкой произошло нечто из ряда вон выходящее. По словам многочисленных свидетелей, она стала кричать не своим – «хриплым и низким» — голосом, причем делала это сразу на нескольких языках.

После того как девушка прокричала оскорбления в адрес Папы Римского, к ней направились представители правоохранительных органов, однако, как впоследствии заявил генеральный секретарь Ватикана епископ Джанни Данзи, прихожанка «проявила нечеловеческую силу». Она оттолкнула охранников, продолжая при этом кричать. Епископ Джанни Данзи был вынужден вмешаться. Он попытался утихомирить девушку, показав ей распятие. Помощники епископа между тем предприняли попытку «отпоить» девушку святой водой.

Но все было тщетно — прихожанка продолжала осыпать проклятиями епископа и его помощников.

В этот момент ситуацию взял в свои руки Папа. Как пишет *The Times*, его подвезли к девушке на «папомобиле» (это автомобиль со стеклянным пуленепробиваемым экраном). Понтифик поговорил с девушкой, изгнал из нее нечистую силу, после чего в течение получаса молился. По окончании молитвы Папа заявил, что на следующий день исполнит мессу во спасение души молодой прихожанки.

По информации сегодняшней *The Times*, Папа изгоняет дьявола в третий раз за свою 22-летнюю духовную карьеру. Последняя попытка, как отмечает издание, по всей видимости, не увенчалась успехом: дьявол показал свою силу, и молодая прихожанка обрела покой лишь на время. Вскоре после инцидента представители Ватикана заявили, что девушка одержима с 12 лет, когда на нее наложил проклятие некий представитель черной магии.

Следует отметить, что римско-католическая церковь проводит четкую грань между умопомешательством и фактами порчи и сглаза. Именно поэтому, как считают в Ватикане, понтифик так отчаянно боролся за спасение души девушки, а не отдал прихожанку в руки врачей. ■

# Движение Индии к центру действий в мировой экономике

Джеффри САКС,

профессор экономики, директор Центра международного развития в университете Гарварда

**Двадцать лет назад Китай вышел из длительного периода экономической самоизоляции и изменил тем самым облик мировой экономики. Другой мировой демографический гигант, Индия, начал свои экономические реформы десять лет назад. При умеренном темпе реформ, несмотря на менее потрясающий эффект на первом этапе, в настоящий момент Индия совершает исторический «прорыв». В первое десятилетие XXI века вполне вероятно ожидать удвоение среднего дохода на душу населения в Индии, и также колоссальное повышение роли этого государства в глобальной экономике.**



Индия ускорила свой экономический рост, начав рыночные преобразования в начале 1990-х. После десятилетия роста с темпом в 3,5% в год, 2% из которых «поглощались» ростом населения, на сегодня в Индии зарегистрирован рост в 6%, из которых меньше 2% приходится на рост населения. Если реформы будут продолжаться, рост может достичь отметки 9%, что послужит гарантом повышения дохода на душу населения до 7% в год – цифра, достаточная, чтобы удвоить доход на душу населения за десятилетие.

Когда Индия получила независимость полвека назад, премьер-министр Джавахарлал Неру открыл для страны путь к мягкому демократическому социализму. Государство тогда держало командные позиции в экономике посредством планирования, массивных инвестиций в государственный сектор и полновластного контроля над основными областями индустрии. Как и в странах, где социализм уже «опробовали», такое положение дел можно было считать прямой дорогой к финансовому кризису и стагнации в экономике. Развязка произошла в 1991 г., вслед падению советского социализма. В тот год Индия отказалась от системы госплана, открылась свободной международной торговле и поддержала конкуренцию в частном бизнесе. С того момента международная торговля развивалась по нарастающей, и произошло общее экономическое оздоровление.

Развитие отраслей науки — одна из сторон наследия Неру — также начало приносить плоды благодаря либерализованному экономическому пространству. На протяжении 40 лет Индия активно инвестировала в ряд крупнейших научных учебных заведений, и в основном в индийские технологические институты (ИТ). Многие сомневались в целесообразности упомянутых инвестиций. Зачем, спрашивали они, стране с поголовной неграмотностью нужны научные институты мирового уровня, учитывая, что подавляющее количество выпускников каждый год все равно эмигрировало в США? Сомневающиеся удостоверились в своей неправоте в 90-х. Специалисты, подготовленные в технологических институтах, трудясь как в Индии, так и в Америке — в частности, в совместных предприятиях обеих стран — сейчас «на передовой» в информационной революции. Индийские инженеры и предприниматели — одни из основных «роторов» развития в Силиконовой Долине; эта связь играет значительную роль в культивации секторов ИТ мирового класса в самой Индии. ИТ-экспорт, в частности программное обеспечение из центров ИТ Южной Индии (Бангалор, Гиберабад и Чинай), на сегодня можно назвать наиболее развитым экспортом экономики страны. Новые сияющие офисные комплексы, оснащенные широкопрофильной оптической связью с интернетом, заполняют территориальные пустоты южных областей, открывая огромные экономические возможности для Индии. Малые провинциальные города пестрят тысячами плакатов и объявлений, рекламирующими компьютерные курсы, интернет-кафе и возможности для инженеров компьютерной индустрии. Тысячи километров оптической связи укладываются по территории Индии и между Индией и миром.

Демографический профиль страны меняется в правильном направлении. На протяжении довольно долгого времени Индия имела имидж государства с большим темпом прироста населения, высокой рождаемостью, высокой детской смертностью и опасностью голода. В самом деле, население выросло в пять раз в XX веке – с 200 миллионов до 1 миллиарда. Причиной этому массовая неграмотность и высокая детская смертность; многодетность здесь (в среднем, шесть детей на семью) — это вынужденный путь продолжить род, из расчета на то, что хотя бы часть детей доживет до зрелых лет.

Интенсивный рост населения подрывал экономическое развитие Индии. Не существовало возможности инвестировать в достаточной мере в образование и здравоохранение для каждого новорожденного. Ситуация меняется за счет популяризации грамотности матерей, улучшений в медицинском обслуживании и применении новейших медицинских технологий. Более того, среднее количество детей, в расчете на семью, уменьшается, что означает прогресс в качестве образования каждого ребенка. В результате рождаемость сократилась (сейчас среднее количество детей на семью в большей части Индии – три, а в некоторых областях — даже меньше двух). Рост населения замедляется; качество образования на единицу населения повышается; средний возраст населения так же повышается, что в свою очередь влияет на увеличение среднего дохода на душу населения. С поддержкой правительства в развитии здравоохранения и семейном планировании эти показатели были бы еще эффективнее.

Залог успеха для Индии — это укрепление начатых преобразований, т.е.: дальнейшее открытие экономики страны рыночной «стихии»; удвоение усилий в развитии здравоохранения, образования, науки и технологий. Если эти мощные силы перемен будут преумножены, Индия, как и Китай, обеспечит себе место среди лидеров мировой экономики, вместе с тем являясь двигателем глобального экономического развития. Наконец, пример Индии докажет, что гибкая и открытая демократия в состоянии создать основу для экономических реформ и мирного сосуществования даже в высоко многообразных, перенаселенных и бедных странах. ■

© Project Syndicate, August

